СОНЦА:

Усход, захад, даўжыня дня:
Мінск — 6.49, 17.59, 10.10;
Віцебск — 6.42, 16.46, 10.04;
Магілёў — 6.39, 16.48, 10.09;
Гомель — 6.35, 16.46, 10.11;
Гродна — 7.06, 17.17, 10.06;
Брэст — 7.01, 17.18, 10.17.

МЕСЯЦ:

Апошняя квадра
19 кастрычніка

ІМЯНІНЫ

Максіма, Якава



# ЗВЯЗДА

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1 рубель

22 КАСТРЫЧНІКА 1992 г.
чацвер, № 213 (21991).




# РОЗГАЛАС

## СПАДАРСТВА, БЕЗ ПАНІКІ

Змяніліся цэны на бензін, на дызпаліва. Натуральна, людзі чакалі чарговага сюрпрыза: увядзенне новых цэн на нафтапрадукты ў Расіі не магло не пацягнуць за сабой чарговага падаражання. І вось сюрпрызы не прымусілі сябе доўга чакаць. Спачатку падаражаў бензін (гэта было ўжо параўнаўча даўно), а з 20 кастрычніка падняліся цэны на праезд у міжгароднім транспарце. Цяпер беларусам прыйдзецца плаціць за дарогу ўдвая больш. Але наваt чарговы ўзлёт цэн на транспартныя паслугі не зможа выцягнуць «Пасажыраўтатранс» са стратнага становішча.

— І цяпер, калі мы ўстанавілі новыя тарыфы,— гаворыць начальнік аддзела фінансаў Міністэрства транспарту Соф'я Кавалёва, — прыбытку не чакаецца. Добра, калі пасажырскі транспарт зможа пакрываць розніцу ў цэнах на паліва і праезд, а перавозкі ўсё роўна застануцца стратнымі пры сённяшніх тарыфах. Між іншым, датацый ні з дзяржбюджэту, ні з абласных бюджэтаў мы не атрымліваем. Адсюль і выпадкі зняцця многіх рэйсаў.

З Украінай і Прыбалтыкай мы пайшлі на рэальныя цэны: устанавілі кошт за праезд у транспарце на Украіну і ў Прыбалтыку — 1 рубель 20 капеек за кіламетр. У рэспубліцы ж сёння праезд у міжгароднім транспарце каштуе 90 капеек за кіламетр і 1 рубель, калі аўтобус мяккі.

На развітанне ў Міністэрстве транспарту нас запэўнілі: яшчэ аднаго ўзлёту цэн на міжгародні праезд да 1993 года чакаць не трэба. Яго не будзе. Праўда, толькі ў тым выпадку, калі нафтапрадукты і нафта змогуць «пачакаць» і не «папросяць» чарговага грашовага ўлівання. Будзем спадзявацца — не папросяць.

Ігар ШЧУЧЭНКА.



## «БАРТЭР» ДЛЯ СВАІХ

**Як учора паведамляла наша газета, у адносінах да П., генеральнага дырэктара аднаго з сумесных прадпрыемстваў Мінска, узбуджана крымінальная справа. Пры яго актыўным удзеле сумесна з асобнымі службовымі асобамі Дзяржкамнафтапрадукта і іншых дзяржаўных структур за межы рэспублікі вывезена дызельнага паліва на суму каля 2,8 мільёна амерыканскіх долараў. Замест абяцанага заходняга «бартэру» ў выглядзе тавараў народнага спажывання для нашых падаткаплацельшчыкаў СП паспела, як відаць па гэтых здымках, само нядрэнна «прыбарахліцца».**

## 215 ПРАЦЭНТАЎ—ГЭТА ВАМ НЕ ЖАРТАЧКІ

Колькасць падпісчыкаў «Звязды» па Гомельскай вобласці ў параўнанні з мінулым годам узрасла на 215 працэнтаў. Нават з «хвосцікам». А ў лічбах нашы гомельскія падпісчыкі амаль дасягнулі 19 тысяч—18.814. Для параўнання скажам, што на «Народную газету» падпісалася ў гэтай жа вобласці каля 44 тысяч (111 працэнтаў), на «Советскую Белоруссию»— 44 з палавінай тысячы (97,8 працэнта), «Белорусскую ниву»— 8 тысяч з нечым (57,6 працэнта), «Рэспубліку»—амаль дзве, «Знамя юности»—9 тысяч (40 працэнтаў), «Чырвоную змену» —508 (20 працэнтаў).

## «КАНВЕРСІЯ-92»: ПЛАНЫ І РЭАЛЬНАСЦЬ

Наблізіцца да канверсіі хоць бы з тэарэтычнага пункту гледжання дапаможа нам выстава «Канверсія-92», якая днямі пачне працаваць у павільёне ВДНГ Беларусі. Гледачам плануецца прадставіць увесь комплекс пераводу ваеннай тэхнікі на «мірныя рэйкі».

Што датычыцца «ноў-хаў», то яны будуць зыходзіць як ад айчынных бізнесменаў, так і ад замежных фірмаў. Праўда, рэальнасць у нас ніколі не паспявала за далёкаідучымі планамі.

## ТРАЦІЛ ПРАДАЁМ, А АРТЫЛЕРЫЮ ВЫВОДЗІМ СА СТРОЮ

**На гэтым тыдні ў горадзе Слуцку супрацоўнікамі аддзела па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю па Мінскай вобласці пры спробе збыту 17 кілаграмаў traцілу і дэтанатара затрыманы трое ваеннаслужачых тэрміновай службы. Гэты траціл быў украдзены.**

**Апрача таго, у ходзе расследавання ўстаноўлена, што адзін са збытчыкаў трацілу разам са сваім знаёмым, таксама ваеннаслужачым, укралі ў адной з воінскіх часцей артылерыйскі пульт прыёму—перадач каманд з устаноўкі кіравання артылерыйскім агнём. Украдзенае канфіскавана.**

В. ОСЬКІН.

## «НАЕХАЎ» НА ПАДПІСКУ

ВІЦЕБСК. Неверагодна цікавым выдаўся нядаўна дзень для трактарыста М. адной з гаспадарак Віцебскай вобласці. Выехаўшы на трактары «пад градусам», ён натрапіў на інспектара ДАІ, які хутка «абнюхаў» механізатара і выпісаў яму 1.000 рублёў. Але на гэтым прыгоды аматара «зялёнага змея» не скончыліся.

Каб трактарыст больш за рулём не піў, інспектар ДАІ прапанаваў яму гадавую падпіску на газету «Перекресток», ды не ў адным, а ў 80 экземплярах.

У выніку вояж небараку-трактарысту абышоўся ў 3.000 рублёў.

## Барацьба пракуратуры з гарвыканкомам ідзе з пераменным поспехам

МІНСК. «Звязда» паведамляла ўжо аб тым, што ў жніўні бягучага года Мінгарвыканком зацвердзіў новыя штрафы на некаторыя парушэнні Правіл дарожнага руху. Пракурор сталіцы Беларусі Іваноў адразу апратэставаў гэта рашэнне, сцвярджаючы, што яно не ўваходзіць у кампетэнцыю гарадскіх улад. На пасяджэнні гарвыканкома пратэст быў адхілены. Аднак пракуратура не здалася, і гэта гісторыя атрымала зараз нечаканы працяг.

Гарадская пракуратура накіравала ў гаспадарчы суд Мінскай вобласці іскавую заяву, у якой патрабуе спагнаць з пазабюджэтнага фонду Мінгарвыканкома суму павышаных штрафаў, утрыманых ім з грамадзян за парушэнне Правіл дарожнага руху, у дзяржаўны бюджэт Рэспублікі Беларусь. А гэта ні многа ні мала—адзін мільён чатырыста трыццаць адна тысяча рублёў. Акрамя таго, пракуратура накіравала адпаведнае пісьмо намесніку генеральнага пракурора РБ І. Сашчэку з просьбай выйсці ў Савет Міністраў рэспублікі з прапановай аб адмене незаконнага рашэння Мінгарвыканкома. Дарэчы, многія вадзіцелі пакорліва плацяць завышаныя штрафы, не падазраючы, што яны з'яўляюцца незаконнымі.

## У НАС НЯМА БЕНЗІНУ—АЛЕ Ў «ГАРАЧЫХ КРОПКАХ» ХАПАЕ ПАТРОНАЎ

**Звыш 1.100 вайскоўцаў-беларусаў праходзяць зараз службу ў «гарачых кропках» былога СССР, з іх 420 — салдаты тэрміновай службы, якія ўваходзяць у падраздзяленні пагранічных войскаў Туркестанскай ваеннай акругі, і 739 афіцэраў, што служаць на Каўказе (591) і ў ТуркВА (148). Усяго ж, згодна са спісамі, якія маюцца ў Міністэрстве абароны Беларусі, вярнуцца з іншых рэгіёнаў СССР жадаюць каля 10 тысяч афіцэраў-беларусаў. Гэтыя лічбы назваў, выступаючы 20 кастрычніка на сесіі Вярхоўнага Савета Беларусі, міністр абароны рэспублікі Павел Казлоўскі.**

**Сярод праблем, што перашкаджаюць хутчэйшаму вяртанню нашых суайчыннікаў на Радзіму, на сесіі называліся адсутнасць дастатковых для гэтага сродкаў, жылля для афіцэрскіх сем'яў, неабходнасць скарачэння Узброеных Сіл Беларусі (па звестках БелаПАН, толькі ў гэтым годзе будзе скарочана каля 12 тысяч афіцэраў) і нават адсутнасць бензіну для запраўкі самалётаў, прызначаных для вывазу вайскоўцаў-беларусаў з «гарачых» кропак». Зрэшты, па меркаванню народнага дэпутата Галіны Сямдзянавай, ёсць і яшчэ адна прычына: Міністэрства абароны рэспублікі не мае праграмы вяртання вайскоўцаў-беларусаў на Радзіму.**

Алесь ЛІПАЙ, (БелаПАН).

НА СЕСІІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

## Першае рашэнне— на карысць бедных

На вячэрнім пасяджэнні ў першы дзень работы парламент прыняў пастанову «Аб мінімальнай заработнай плаце». Згодна з гэтым дакументам, з 1 лістапада 1992 года для жыхароў Беларусі ўстанаўліваецца мінімальная заработная плата ў размеры 2.000 рублёў. Напомнім, што рад грамадскіх арганізацый прапаноўваў павысіць ніжнюю мяжу зарплаты да 2.500—5.000 рублёў. Як адзначыў Старшыня Савета Міністраў Вячаслаў Кебіч, гэта прывяло б нас да чарговага тупіка і росту цэн. Урад і ў далейшым мае намер аказваць дапамогу малазабяспечаным слаям насельніцтва і, перш за ўсё, пенсіянерам. Аднак неабходна лічыцца з рэальнасцю і магчымасцямі дзяржаўнага бюджэту, дэфіцыт якога і так расце. Павышэнне мінімальнай зарплаты і, адпаведна, пенсій у два разы, на 13 мільярдаў рублёў кожны месяц павялічваюць асігнаванні з бюджэту. Цяпер Беларусь першай з краін Садружнасці адважылася на такі крок. Акрамя гэтага, прэм'ер-міністр паведаміў, што непрацуючыя пенсіянеры штомесяц будуць атрымліваць да канца года дадаткова яшчэ па 500 рублёў.

БЕЛІНФАРМ.

## Еўропа можа спаць спакойна?

**Дагавор аб звычайных узбраеннях у Еўропе ратыфікаваны ўчора нашым парламентам. Аднак некаторыя дэпутаты лічаць, што Беларусь будзе прадаваць танкі.**

**Ох, і прымусілі ж мы пахвалявацца Еўропу. Можна быць упэўненым, што інфармацыя аб ратыфікацыі Беларуссю міжнародных пагадненняў будзе з задавальненнем успрынята ва ўсіх еўрапейскіх сталіцах. А тое, што там праяўлялі пэўную заклапочанасць, пацвярджае і такі факт: толькі нашу рэспубліку наведала максімальная колькасць — 18 — правяраючых міжнародных інспекцый з васьмі дзяржаў. Што ж, будзем спадзявацца, што надалей наша рэспубліка не будзе сваёй марудлівасцю выклікаць нерваванне ў еўрапейскіх сталіцах.**

ПАСЯДЖЭННЕ Вярхоўнага Савета Беларусі, прысвечанае ратыфікацыі міжнародных пагадненняў, было закрытым. І пэўна, унікальныя вынікі галасавання (з прысутных 302 дэпутатаў 291—«за») могуць стварыць уражанне аб лёгкасці абмеркавання. Ні ў каго не было сумненняў наконт неабходнасці яго ратыфікаваць, аднак некаторыя дэпутаты і ў зале пасяджэнняў, і ў кулуарах ставілі прамыя пытанні аб сутнасці беларускай вайсковай палітыкі. Ці ёсць у нас свая дактрына, стратэгія? Ці зможа Беларусь абараніць сябе ў выпадку неабходнасці? Хто для нас у геапалітыцы стратэгічны саюзнік, а хто — наадварот? Як выкарыстаць скарачаемыя ўзбраенні?

Дарэчы, апошняе пытанне і было, бадай, самым галоўным. Тым больш, што з'явілася неправераная інфармацыя аб тым, нібыта Беларусь ужо знайшла пакупнікоў для сваіх танкаў. Інфармацыя ішла ад дэпутацкіх колаў аб'яднання «Беларусь», таму натуральна, што за каментарыямі я звярнуўся да яго выканаўчага каардынатара Генадзя Казлова.

— Трэба, каб у гэтай праблеме не было ніякага дылетантызму. **Аказалася, што прадаць — не так проста, як гэта здаецца.** Пры продажы трэба выканаць шмат міжнародных нормаў: па-першае, зброя не павінна трапіць у раёны міжнацыянальных канфліктаў, а па-другое — калі мы хочам прадаць за належную цану, трэба гарантаваць на пэўныя гады тэхнічнае абслугоўванне і забеспячэнне запчасткамі.

Пад знішчэнне, згодна з падпісаным дагаворам, трапляе толькі старая тэхніка. А наконт новай — я мяркую, што і ўрад, і міністэрства абароны прымуць адпаведныя крокі, і рэспубліка атрымае ў бюджэт пэўную немалую прыбаўку. Думаю, прэм'ер-міністр скажа аб гэтым у сваёй інфармацыі.

Так што прызнаюся, пытанне «Ці будзе Беларусь прадаваць зброю?» было для мяне не адкрытым, пакуль усе кропкі над «і» не расставіў брыфінг для журналістаў, які адразу пасля ратыфікацыі далі міністр абароны Павел Казлоўскі, намеснік старшыні Камісіі па пытаннях бяспекі і нацыянальнай абароны Леанід Прывалаў і начальнік агенцтва па кантролю і інспекцыях Віктар Вакаў.

Казлоўскі запэўніў, што ў Беларусі ніякіх спроб прадаць скарачаемыя танкі не было — дагавор забараняе гэта рабіць. А Леанід Прывалаў дадаў: «Такой справай павінны займацца толькі прафесіяналы. Калі хто-небудзь іншы будзе «встревать», ніякага станоўчага выніку мы не атрымаем».

Згодна з ратыфікаваным дакументам, Беларусі пакінуты наступны гранічны ўзровень узбраенняў: 1800 танкаў, 2000 баявых машын, 130 самалётаў.

(Заканчэнне на 3-й стар.).

# РАДЫЁ ФАКТ

### НЕКАЛЬКІ ЛІЧБАЎ І ФАКТАЎ

* На пачатак кастрычніка ў Беларусі зарэгістравана 14,9 тысячы беспрацоўных. Асноўная крыніца іх папаўнення — рабочыя і служачыя, звольненыя з прадпрыемстваў і арганізацый.

* Сёлета ў Беларусі зарэгістравана 53 тысячы 320 шлюбаў, менш, чым летась. А вось колькасць разводаў павялічылася і склала 25 тысяч 899.

* У гэтым годзе зарэгістравана 1.672 самазабойствы, што таксама больш, чым летась.

* Рэшткі ўкладаў насельніцтва Беларусі з улікам налічанай кампенсацыі на спецыяльных рахунках на 1 верасня наблізіліся да 41 мільярда рублёў.

***

Чарговы акт вандалізму выяўлены ва ўрочышчы «Курапаты». З крыжа-помніка пакутнікам рэпрэсій украдзены ручнікі, разбіты абраз Ісуса Хрыста. Сябры хрысціянскай злучнасці «Курапаты» звяртаюцца да ўсіх, каму дарагое наша мінулае, прыйсці на талаку па ўпарадкаванню курапацкіх могілак напярэдадні Дня памяці 24 кастрычніка а 10 гадзіне.

***

Не спыняюцца нападзенні на ваенныя аб'екты Узброеных сіл Беларусі. Вось апошні выпадак, які адбыўся ў адной з часцей Гродзенскага гарнізона. У 21 гадзіну 45 мінут вартавы ўбачыў на дарозе парушальніка, які не адрэагаваў на каманды і тры папераджальныя выстралы, а накіраваўся ў бок вартавога з пагрозамі. Апошні прымяніў зброю і адкрыў агонь на паражэнне. Заведзена крымінальная справа. Ваенная пракуратура праводзіць расследаванне. Правамерныя і рашучыя дзеянні вартавога заахвочаны камандаваннем часці.

***

Новы вафельны торт «Марыяна» паступіў у продаж у маскоўскія кандытарскія. Яго выпускае сталічны эксперыментальны кандытарска-булачны камбінат «Зорны». Як паведаміла загадчыца лабараторыі камбіната Людміла Крайнава, ідэя назвы ўзнікла ў час наведвання нашай краіны гераіні тэлесерыяла «Багатыя таксама плачуць» Веронікі Кастра. Работніцы вафельнага цэха з энтузіязмам успрынялі ідэю, і, каб бедныя не плакалі, новы торт зрабілі па цяперашнім часе танным — усяго 73 рублі.

# РАШЭННЕ

### КАМІСІІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ПА АДУКАЦЫІ, КУЛЬТУРЫ І ЗАХАВАННЮ ГІСТАРЫЧНАЙ СПАДЧЫНЫ ПА ФАКТУ НЯСВОЕЧАСОВАГА І НЯПОЎНАГА ВЫКАНАННЯ ПАСТАНОВЫ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ АД 22 КРАСАВІКА 1992 г.

Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па адукацыі, культуры і захаванню гістарычнай спадчыны, абмеркаваўшы пытанне аб ходзе выканання пастановы Вярхоўнага Савета № 1622-XII «Аб унясенні змен у пастанову Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь «Аб парадку ўвядзення ў дзеянне Закона Рэспублікі Беларусь «Аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь», адзначае, што Савет Міністраў, Міністэрства фінансаў, Дзяржкамстат і Дзяржкампрацы Рэспублікі Беларусь нясвоечасова і ў няпоўнай ступені выканалі азначаную вышэй пастанову Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, што на фоне няўхільнага павышэння цэн прыводзіць да рэзкага пагаршэння матэрыяльнага становішча педагагічных работнікаў рэспублікі, адкідвае многіх з іх за рысу беднасці і гранічна абвастрае сацыяльную напружанасць сярод работнікаў галіны. І без таго нізкі сацыяльна-прававы статус выхавальніка, настаўніка, выкладчыка сярэдняй спецыяльнай і вышэйшай школы ў грамадстве яшчэ больш панізіўся, што служыць непасрэднай прычынай пагаршэння якасці навучальна-выхаваўчага працэсу і непазбежна прывядзе рэспубліку ў бліжэйшай будучыні да вялікіх маральных і матэрыяльных страт.

Камісія выказвае падтрымку дзеянням прафсаюзных і іншых грамадскіх арганізацый рэспублікі, усёй педагагічнай грамадскасці Беларусі, накіраваным на няўхільнае і поўнае выкананне Закона аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь, і патрабуе ад урада Рэспублікі Беларусь, ад кампетэнтных органаў дзяржаўнага кіравання рэспублікі прыняць вычарпальныя захады дзеля неадкладнага яго ажыццяўлення, у т. л. і што датычыцца тэрміну ўвядзення ў дзеянне артыкула 34.

Камісія звяртаецца да народных дэпутатаў Рэспублікі Беларусь з прапановай даць належную ацэнку на сесіі Вярхоўнага Савета Беларусі таму, што Савет Міністраў, шэраг міністэрстваў і ведамстваў рэспублікі адкрыта праігнаравалі рашэнне Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь аб увядзенні ў дзеянне з 1 верасня 1992 г. арт. 34 Закона «Аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь».

## ДА ВІЗІТУ ХЮСАМЕТЦІНА ДЖЫНДАРУКА

**По запрашэнню Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. Шушкевіча ў Мінск з афіцыяльным візітам сёння прыбывае старшыня Вялікага нацыянальнага сходу Турцыі Хюсаметцін Джындарук**

Хюсаметцін Джындарук нарадзіўся ў 1933 г. у Ізміры. Пасля заканчэння ў 1950 г. сярэдняй школы ў Анкары Х. Джындарук паступае на юрыдычны факультэт, які заканчвае ў 1954 г. З 1955 года Джындарук пачынае сваю кар'еру як юрыст. У гэты ж час ён становіцца членам дэмакратычнай партыі, у перыяд з 1952 па 1954 г. узначальвае яе маладзёжнае крыло.

З 1975 па 1980 г. з'яўляецца старшынёй Партыі справядлівасці.

Пасля перамогі на выбарах 14 мая 1985 года Х. Джындарук становіцца генеральным старшынёй Партыі вернага шляху, лідэрам якой з'яўляўся да 1987 года. У 1986 г. Джындарук выбіраецца членам парламента ў якасці кандыдата ад гэтай партыі. У 1990 г. становіцца намеснікам яе старшыні і выканаўчым старшынёй.



У кастрычніку 1991 г. перавыбіраецца ў парламент у якасці кандыдата ад Партыі вернага шляху.

Жанаты, мае траіх дзяцей. Валодае англійскай мовай.

# ПАСТАНОВА

## Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь

**Аб унясенні змяненняў у пункт 16 пастановы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 24 верасня 1992 г. № 588**

Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Выкласці абзацы першы і другі пункта 16 пастановы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 24 верасня 1992 г. № 588 «Аб сур'ёзных недахопах у рабоце дзяржаўных і гаспадарчых органаў, службовых асоб па абароне эканамічных інтарэсаў рэспублікі ў наступнай рэдакцыі:

«Устанавіць дзяржаўную манаполію на продаж віна-гарэлачных і каньячных вырабаў, іншых алкагольных напіткаў, тытунёвых вырабаў і піва, вырабляемых у рэспубліцы, маючы на ўвазе рэалізацыю ўказаных тавараў насельніцтву толькі праз сетку прадпрыемстваў дзяржаўнага гандлю і спажывецкай кааперацыі, а таксама дзяржаўныя гандлёвыя прадпрыемствы, здадзеныя ў арэнду пры захаванні цэнтралізаванага забеспячэння іх рыначнымі фондамі на гэтыя тавары.

Выканкомам гарадскіх і раённых Саветаў народных дэпутатаў унесці змяненні, што вынікаюць з гэтага пункта, у раней выдадзеныя дазволы (ліцэнзіі) на продаж указанай прадукцыі».

**Старшыня Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь**
**В. КЕБІЧ.**
**Кіраўнік спраў Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь**
**М. КАЎКО.**

19 кастрычніка 1992 г. г. Мінск.

БІШКЕК-92

**На сустрэчы кіраўнікоў дзяржаў і ўрадаў краін — членаў СНД, што адбылася нядаўна ў Бішкеку, быў заключаны шэраг важных міждзяржаўных і міжурадавых пагадненняў. З некаторымі з іх, падпісанымі на Савеце кіраўнікоў урадаў, наша газета знаёміць сваіх чытачоў.**

# РАШЭННЕ

### АБ АСНОЎНЫХ НАПРАМКАХ МІЖДЗЯРЖАЎНАЙ КОМПЛЕКСНАЙ МЕДЫКА-САЦЫЯЛЬНАЙ ПРАГРАМЫ АХОВЫ ЗДАРОЎЯ І РЭАБІЛІТАЦЫІ ВОІНАЎ-ІНТЭРНАЦЫЯНАЛІСТАЎ І ЧЛЕНАЎ ІХ СЕМ'ЯЎ

Урады дзяржаў — удзельніц гэтага Рашэння, зыходзячы з неабходнасці больш поўнага задавальнення патрэбнасці воінаў-інтэрнацыяналістаў у рэабілітацыі, пратэзаванні і санаторна-курортным лячэнні і забеспячэння кваліфікаванай і спецыялізаванай медыцынскай дапамогай, вырашылі:

1. Адобрыць у цэлым Асноўныя напрамкі міждзяржаўнай комплекснай медыка-сацыяльнай праграмы аховы здароўя і рэабілітацыі воінаў-інтэрнацыяналістаў і членаў іх сем'яў на 1992—1995 гады (прыкладаюцца).

2. Даручыць Камітэту па справах воінаў-інтэрнацыяналістаў пры Савеце кіраўнікоў урадаў Садружнасці разам з камітэтамі па справах воінаў-інтэрнацыяналістаў дзяржаў — удзельніц Садружнасці дапрацаваць мерапрыемствы міждзяржаўнай комплекснай медыка-сацыяльнай праграмы аховы здароўя і рэабілітацыі воінаў-інтэрнацыяналістаў і членаў іх сем'яў на 1992—1995 гады.

3. Прыняць да ведама, што фінансаванне мерапрыемстваў, прадугледжаных гэтым Рашэннем, ажыццяўляецца ў 1992 годзе за кошт сродкаў Камітэта па справах воінаў-інтэрнацыяналістаў пры Савеце кіраўнікоў урадаў Садружнасці, а ў наступныя гады — за кошт бюджэтных сродкаў гэтых дзяржаў, зыходзячы з колькасці пражываючых у іх воінаў-інтэрнацыяналістаў.

4. Даручыць Камітэту па справах воінаў-інтэрнацыяналістаў пры Савеце кіраўнікоў урадаў Садружнасці, міністэрствам фінансаў, міністэрствам сацыяльнай абароны і сацыяльнага забеспячэння, міністэрствам аховы здароўя і міністэрствам абароны дзяржаў — удзельніц Садружнасці распрацаваць і прадставіць у лістападзе гэтага года на разгляд Савета кіраўнікоў урадаў прапановы:

— па фінансаванню ў 1993—1995 гадах мерапрыемстваў, прадугледжаных Асноўнымі напрамкамі міждзяржаўнай комплекснай праграмы аховы здароўя і рэабілітацыі воінаў-інтэрнацыяналістаў і членаў іх сем'яў;

— па забеспячэнню воінаў-інтэрнацыяналістаў гарантаваным аб'ёмам ільгот у медыцынскім і сацыяльным забеспячэнні, прафесіянальным абучэнні і працаўладкаванні незалежна ад месца іх пражывання.

Падпісана ў горадзе Бішкеку 9 кастрычніка 1992 года ў адным сапраўдным экземпляры на рускай мове. Сапраўдны экземпляр захоўваецца ў Архіве Урада Рэспублікі Беларусь, які накіруе дзяржавам, што падпісалі гэтае Рашэнне, яго завераную копію.

Рашэнне падпісана кіраўнікамі ўрадаў Рэспублікі Арменіі, Рэспублікі Беларусь, Рэспублікі Казахстан, Рэспублікі Кыргызстан, Рэспублікі Малдовы, Расійскай Федэрацыі, Рэспублікі Таджыкістан, Рэспублікі Узбекістан, Украіны.

***

З просьбай пракаменціраваць гэтае Рашэнне рэдакцыя звярнулася да адказнага работніка Кіраўніцтва справамі Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь Юрыя Бацяна:

— Трэба адразу адзначыць, што цяпер на тэрыторыі нашай рэспублікі пражывае 24.016 удзельнікаў лакальных канфліктаў, што адбыліся за межамі былога СССР. Толькі праз Афганістан прайшлі 24.288 жыхароў Беларусі, 837 з іх вярнуліся інвалідамі, 729 сем'яў не дачакаліся сваіх дзяцей, бацькоў, братоў, мужоў. Лёс больш як 10 чалавек, удзельнікаў вайны ў Афганістане, невядомы. Прыняты дакумент якраз і накіраваны на абарону інтарэсаў гэтай катэгорыі грамадзян.

Рашэнню кіраўнікоў урадаў па гэтаму пытанню папярэднічала вялікая падрыхтоўчая работа, у якой прынялі ўдзел з боку нашай рэспублікі шэраг міністэрстваў і ведамстваў, Асацыяцыя воінаў-інтэрнацыяналістаў. Хочацца сказаць вялікі дзякуй усім людзям, якія паставіліся і ставяцца да гэтай праблемы з душой.

На што асабліва трэба звярнуць увагу ў гэтым дакуменце, дык гэта на гарантаваную высокакваліфікаваную дапамогу воінам-інтэрнацыяналістам у любой з дзяржаў СНД, забеспячэнне медыка-псіхалагічнай і сацыяльна-працоўнай рэабілітацыі воінаў-інтэрнацыяналістаў і членаў іх сем'яў незалежна ад месца іх пражывання на базе цэнтраў «Русь», «Байкал», «Лазурны» і інш. Выдзяленне пуцёвак у гэтыя цэнтры будзе рабіцца прапарцыянальна колькасці воінаў-інтэрнацыяналістаў і членаў іх сем'яў, што жывуць у кожнай з краін СНД. Фінансаванне прадугледжана за кошт бюджэтных сродкаў дзяржаў, зыходзячы з колькасці пражываючых на іх тэрыторыі грамадзян гэтай сацыяльнай катэгорыі.

Дэталёвая прапрацоўка палажэнняў гэтага Рашэння змяшчаецца ў Асноўных напрамках міждзяржаўнай комплекснай медыка-сацыяльнай праграмы аховы здароўя і рэабілітацыі воінаў-інтэрнацыяналістаў і членаў іх сем'яў на 1992—1995 гады, якія прыняты ў якасці дадатку да асноўнага дакумента.

Цяпер пачынаецца работа па выкананню прынятага Рашэння. Ужо 22 кастрычніка гэтага года ў Маскве пройдзе нарада па выпрацоўцы і ўзгадненню праектаў дакументаў па ўказаных пытаннях, у якой прымуць удзел і прадстаўнікі нашай рэспублікі.

ПУНКТ ПОГЛЯДУ

# Патрэбна стратэгія выжывання

ПРАБЛЕМА збыту мяса, якая паўстала пры падаючых аб'ёмах яго вытворчасці, прымушае больш пільна ўглядзецца ў прычыны крызісу эканомікі і шляхі выхаду з яго. Да гэтай праблемы не маюць адносін ні ўзровень сацыяльнага развіцця вёскі, ні разрыў гаспадарчых сувязей, ні лібералізацыя цэн ва ўмовах манапалізму вытворцаў. Тут нікуды не адысці ад пытання: якой цаной выраблена? І не толькі мяса, але і збожжа, трактары, паліва і г. д.

Калі старшыні адказваюць апазіцыі, што калгасы-саўгасы вырабляюць на душу насельніцтва мяса, збожжа, бульбы і іншых прадуктаў больш або столькі ж, колькі ў Бельгіі або Галандыі, што фермеры больш гэтай прадукцыі не вырабляць — тут яны маюць рацыю. Але яны забываюць пры гэтым, што на аднаго механізатара ў рэспубліцы прыпадае адзін упраўленец, што трактар служыць у два разы менш, што на цэнтнер прывагі расходуецца канцэнтраваных кармоў у два разы больш і г. д. Увогуле забываюць сказаць, што «ў іх» затраты грамадскай працы на адзінку канчатковага прадукту амаль на парадак ніжэйшыя, чым у нас.

Будзем справядлівыя — і ў іншых галінах становішча не лепшае. Напрыклад, на абпальванне цэглы энергіі выдатковваецца ў 2—3 разы больш. У цэлым жа склалася вытворчая сістэма з нізкай эфектыўнасцю, часам блізкай да нуля прадукцыйнасцю.

Неэфектыўнасць эканамічнай сістэмы, якая базіруецца на грамадскай уласнасці, пакрывалася доўгія гады даходамі ад экспарту прыродных рэсурсаў, накапленнем зносу фондаў, неразвітасцю сацыяльнай інфраструктуры, даўгамі будучым пакаленням. Але ўжо пенкі, напрыклад, у прыроды зняты і даходы бяднеюць. Самаеднасць эканомікі пакрываць больш няма чым, і яна яшчэ хутчэй ідзе да краху за кошт паскоранага праядання фондаў. Таму класічная схема інфляцыйнай падтрымкі эканомікі ў нас не спрацоўвае.

Збядненне вытворчых магчымасцей вядзе да перабудовы структуры спажывання. Немагчыма цяпер ужываць мяса ў ранейшай колькасці і адначасова мець цяпло ў дамах, лякарствы, абутак, адзенне. Таксама па-ранейшаму. На паверхні новая сітуацыя выступае або ў недахваце грошай (у выпадку свабодных цэн), або ва ўсеагульным дэфіцыце.

Дна яшчэ не відаць. Спыненне падзення вытворчасці энерганосьбітаў у Расіі чакаецца да 2000 года, а ўвоз нафты з Кувейта, напрыклад, азначае цану аднаго літра бензіну ў 70—100 рублёў, адной кілават-гадзіны электраэнергіі — 20—30 рублёў (пры сённяшніх даходах). У бліжэйшыя 5—10 гадоў вялікія рэсурсы трэба затраціць на ліквідацыю накопленага папярэднімі пакаленнямі «недарамонту», замест таго каб выкарыстаць дзеля павелічэння выпуску канчатковага прадукту. Растлумачу гэта характэрным прыкладам. У Мінску каля 1.400 км цепласетак. З іх 150 км у аварыйным стане. Тэмпы рэканструкцыі аварыйных сетак такія, што іх перакладка зойме 10—15 гадоў. За гэты час у пацяруху могуць ператварыцца астатнія 1.300 км. Аналагічная сітуацыя наспявае не толькі ў камунальнай гаспадарцы, але і ў многіх галінах вытворчай сферы. А рэсурсаў на рэканструкцыю няма. Што з гэтага вынікае, чытач можа ўявіць сам.

Агульны крызіс аджыўшай сістэмы для Беларусі пагаршаецца шэрагам акалічнасцей. Перш за ўсё, адбываецца змяненне балансу ўвозу-вывазу не на карысць рэспублікі. Падкормка ў памеры 2,5 мільярда долараў у год за кошт Расіі ў форме амаль дармавой сыравіны — заканчваецца. Сёлета гэты працэс быў згладжаны спажываннем нацыянальнага даходу Расіі шляхам крэдытнай эмісіі Нацыянальным банкам «намаляваных» рублёў. Але і гэты канал падсілкоўвання за кошт «старэйшага брата», падобна, будзе хутка закрыты.

У рэспубліцы шмат энергаёмістых і матэрыялаёмістых прадпрыемстваў прамысловасці, многія з якіх стануць неканкурэнтаздольнымі пры пераходзе да цэн сусветнага рынку. Шэраг неэнергаёмістых прадпрыемстваў (электроніка, прыбора- і радыёбудаванне), якія толькі нядаўна былі гонарам рэспублікі, безнадзейна адсталі ад тэхнічнага прагрэсу і ў будучым іх прадукцыя таксама нікому не спатрэбіцца (замежная больш якасная і танная).

Беларусь займала першае месца ў былым СССР па прымяненню зборнага жалезабетону. Але, вядома, што будаўніцтва аднаго квадратнага метра ў панельным выкананні патрабуе энергазатрат у 3,5 раза больш, чым у цагляным. Да таго ж, у будынку з цэглы затраты энергіі на эксплуатацыю таксама на 20 працэнтаў меншыя.

Вядома, што сельская гаспадарка спажывае ў канчатковым выніку палавіну выраблямай энергіі. У рэспубліцы развіты якраз найбольш энергаёмістыя вытворчасці свініны і ялавічыны. Поўныя затраты на вытворчасць 1 ц свініны ў 15—20 разоў большыя, чым на вытворчасць 1 ц малака, ялавічыны — у 12 разоў.

З усяго гэтага вынікае, што крызіс, які разгортваецца, можа ператварыць Беларусь з дабрабытнай у самую бедную з усіх рэспублік былога СССР і ўцягнуць яе ў хаос. Каб змякчыць сацыяльныя вынікі гэтага крызісу, трэба, перш за ўсё, усвядоміць яго прычыны і сур'ёзнасць. Але такога ўсведамлення якраз і няма ні ў кіраўнікоў рэспублікі, ні сярод шэрагу палітычных партый.

Кіраўнікі рэспублікі першапрычыны крызісу бачаць не ў грамадскай уласнасці і, адпаведна, цэнтралізаваным планаванні. Яны іх бачаць то ў разрыве гаспадарчых сувязей, то ў крызісе неплацяжоў, то ў зрыве паставак з іншых рэспублік, то ў непаслухмянасці ўласных міністраў або мясцовых улад і г. д. Таму пры чарговым зруху робяцца чарговыя заявы пра прыкметы стабілізацыі эканомікі.

У адпаведнасці са сваім разуменнем сітуацыі ўрад прымае пэўныя захады. Як толькі намецілася аднаўленне знешніх умоў для вяртання да цэнтралізаванага планавання ўнутры рэспублікі (перамога кансерватыўнага крыла ў Расіі, кампраміс паміж галіновай і тэрытарыяльнай бюракратыяй, дасягнуты ў Мінску на кангрэсе прамыслоўцаў і прадпрымальнікаў, і інш.), на Прэзідыуме Саўміна РБ (у верасні) быў аб'яўлены «новы курс», скіраваны на ўзмацненне цэнтралізаванага планавання і ліквідацыю «рыначнага бязмежжа». (На справе ж не была выканана ніводная з умоў стварэння рынку. Не было нават сапраўднай лібералізацыі цэн — пра гэта сведчыць істотная розніца цэн на тавары ў дзяржаўным і камерцыйным гандлі. У наяўнасці толькі бязмежжа дзяржаўных чыноўнікаў у перапампоўванні дзяржуласнасці праз так званыя «рыначныя структуры»).

Паводле нашага перакананя, урад вяртаецца да тых метадаў кіравання, якія якраз і давялі краіну да разбурэння.

За гэтыя ж метады «адміністрацыйна - планавага» кіравання выступае і БНФ. Апошні хоча выкарыстаць іх для пераходу да рынку, але да такога рынку, у якім урад яшчэ доўгі час будзе рэгуляваць размеркаванне асноўных рэсурсаў. Па сутнасці, канцэпцыя БНФ зводзіцца да падпарадкавання эканомікі рэспублікі пабудове чарговага таталітарнага грамадства. Адсюль і імкненне да «поўнага» эканамічнага суверэнітэту (чаго ў прынцыпе быць не можа), упор на падпарадкаванне эканамічнага жыцця «прынцыпу дзяржаўнай (стратэгічнай) мэтазгоднасці». У цэлым нельга падтрымаць канцэпцыю БНФ, паколькі яна не вядзе ні да эфектыўнай эканамічнай сістэмы, ні да дэмакратыі (хоць асобныя элементы канцэпцыі разумныя).

Заяву З. Пазняка аб тым, што, «калі мы здолеем дамагчыся новага ўраду, дык праз 5—8 гадоў не толькі станем на ногі, але дасягнем узроўню такіх краін, як Данія, Фінляндыя і г. д. Гэта не пустыя словы, я маю адпаведныя разлікі» («Навіны адраджэння», № 1, 1992 г.), можна расцаніць як неразуменне ім таго, што ён гаворыць. Я шмат гадоў, будучы старшым навуковым супрацоўнікам Інстытута эканомікі АН РБ, займаўся пытаннямі прагназіравання і магу сцвярджаць, што такія разлікі зрабіць вельмі цяжка. З імі не справіліся ні Інстытут эканомікі АН, ні эканамічны інстытут Дзяржэканомплана (яны толькі выдавалі тамы бяздоказных сцвярджэнняў аб тым, як усё будзе цудоўна). А што датычыць узроўню жыцця праз пяць гадоў «як у Даніі», то дай нам Бог вярнуцца праз гэты час да ўзроўню нашага жыцця ў 1980 годзе.

Неразуменнем сітуацыі можна растлумачыць выказванні прапагандыстаў БНФ, што неабходнай умовай эканамічнага ўздыму з'яўляецца пачуццё адзінства нацыі. Тэзіс вельмі сумніцельны. Але галоўнае ў тым, што на духоўнае адраджэнне патрабуюцца дзесяцігоддзі, а лік ідзе літаральна на месяцы.

У іншых партый няма эканамічных праграм. Яны робяць толькі асобныя прапановы, якія нічога не мяняюць і нічаму не дапамагаюць. Напрыклад. Аб'яднаная дэмакратычная партыя Беларусі прапануе стварыць свабодную эканамічную зону ў раёне Аэрапорта-2, аб чым паведамілі сродкі масавай інфармацыі. Рэкорд прапагандысцкай шуміхі паставіла Партыя народнай згоды. Тры дні ў прамым эфіры па тэлебачанні прапагандавалася ідэя прыватызацыі часткі чыстага прыбытку прадпрыемстваў іх калектывамі. Ды нічога не зменіцца ў сістэме (хіба што трынаццатая зарплата будзе выдавацца ў форме дывідэндаў), затое адпавядае «новаму курсу» ўрада на рэстаўрацыю старой сістэмы.

Сялянская партыя выступае за стварэнне таварных фермерскіх гаспадарак, за права прыватнай уласнасці на зямлю... Але якімі б ні былі асобныя прапановы, добрыя або дрэнныя, яны пагоды не робяць. У папярэднія гады ў Польшчы, напрыклад, 87 працэнтаў сельгасугоддзяў знаходзілася ў прыватнай уласнасці, але пры наяўнасці «камандных вышынь» у руках дзяржавы (цэны на прадукцыю і тэхніку, дзяржсістэма забеспячэння і закупак, абмежаванні на памеры гаспадарак і г. д.) прыватная ўласнасць сваіх пераваг не паказала. Таму маючыя адбыцца спрэчкі ў ВС рэспублікі па праектах Закона «А праве прыватнай уласнасці на зямлю» практычна азначаюць марнаванне часу.

Патрэбны сістэмныя змяненні ў эканоміцы, адэкватныя той сур'ёзнай сітуацыі, якая складваецца ў рэспубліцы. Патрэбна стратэгія выжывання. У нас яшчэ застаўся адзін рэзерв — эфектыўнае выкарыстанне рэсурсаў. Для гэтага не заўсёды патрабуецца даўгачасная і дарагая замена тэхналогій вытворчасці. Для гэтага неабходна творчасць мас. «Новым» курсам урада — назад да планавання — будуць толькі падаўлены тыя парасткі ініцыятывы знізу, якія з'явіліся ўжо.

Рух за дэмакратычныя рэформы ў Беларусі (РДРБ) выступае за рух не назад, а наперад, за пераход да цывілізаванага рынку. Але не будзе такога рынку і руху да дабрабыту, пакуль дзяржаўны чыноўнік будзе вырашаць, што купіць у Казахстане, будзе выдаваць мноства ліцэнзій, размяркоўваць рэсурсы. Будуць толькі бязмежжа карупцыі гэтых чыноўнікаў, раскоша эліты і галеча мас.

**Леанід ЗЛОТНІКАЎ,**
**сустаршыня Руху за дэмакратычныя рэформы ў Беларусі, кандыдат эканамічных навук.**



## КАЛЕГІ

Героі гэтых фотаздымкаў не знаёмы паміж сабою. Ганна **Альшэўская** жыве ў Валожынскім раёне, працуе выхавальніцай дзіцячага садка, што ў вёсцы Вішнёва.

Вясёлыя юнакі і дзяўчаты вучацца ў Мінскай гімназіі пры педінстытуце імя М. Горкага.

Аб'ядноўвае іх прафесія педагога. Ганна—сёлетняя выпускніца педінстытута. Гімназісты яшчэ толькі мараць стаць студэнтамі гэтай ВНУ, кожны з іх неаднойчы ўяўляў сябе настаўнікам. Міне час, і трывалыя веды, якія яны атрымліваюць у гімназіі, стануць пропускам у інстытуцкія аўдыторыі.

Яны абавязкова стануць калегамі!

**Яўген ПЯСЕЦКІ.**




АКТУАЛЬНА



# ЦІ БУДУЦЬ У НАС ЛЕКІ?

**Шмат розных пытанняў паўстае зараз перад уладамі ўсіх узроўняў. І не апошняе месца сярод іх займае праблема забеспячэння насельніцтва рэспублікі лекамі. Яна і раней была даволі вострай, а пасля распаду былога Саюза яшчэ больш абвастрылася.**

Як вядома, на Захадзе фармацэўтычная прамысловасць — гэта вельмі навукаёмістая галіна, якая патрабуе ўкладання вялікіх грашовых сродкаў і значных намаганняў навукоўцаў. Нават часам з розных краін. Напрыклад, у ЗША распрацоўка новага лекавага сродку займае 10—12 гадоў і каштуе больш за 200 мільёнаў долараў. Словам, наяўнасць развітой фармацэўтычнай прамысловасці сведчыць аб высокім узроўні развіцця любой краіны, яе навуковым патэнцыяле. У дадатак трэба абавязкова адзначыць, што гэта галіна вельмі прыбытковая.

На жаль, у былым Саюзе ёй не надавалася належнай увагі, нягледзячы на тое, што для кіравання гэтай галіной было ўтворана спецыяльнае Міністэрства. Замест таго каб укладваць сродкі ў развіццё сваёй медыцынскай прамысловасці, дзяржава закупляла лекі за мяжой. Урэшце, за наш кошт у былых краінах сацыялістычнай садружнасці была створана вельмі добрая, нават па заходніх мерках, фармацэўтычная прамысловасць. А мы засталіся з вялікімі праблемамі. Што ж датычыць Беларусі, атрымалася так, што амаль усе навуковыя арганізацыі, якія распрацоўвалі новыя лекавыя сродкі, як і самыя перадавыя, па нашых мерках, фармацэўтычныя прадпрыемствы, ствараліся ў Расіі і на Украіне. Там жа былі пабудаваны амаль усе прадпрыемствы, якія выраблялі сыравіну для далейшай перапрацоўкі ў гатовыя лекавыя сродкі. Беларусі ж і ў гэтай галіне «даставаліся» прадпрыемствы, якія працавалі на прывазной сыравіне.

Сёння, калі гаспадарчыя сувязі абарваныя, гэтыя прадпрыемствы ўжо не атрымліваюць ад былых пастаўшчыкоў патрэбнай колькасці сыравіны. Такім чынам, не толькі паменшыліся пастаўкі лекаў у Беларусь з іншых краін былога Саюза, але паменшылася і ўласная вытворчасць. Няма і дастатковай колькасці цвёрдай валюты, каб набыць патрэбныя лекі за мяжой, хоць урад і прыкладае значныя намаганні для вырашэння гэтага пытання.

Карціна быццам бы змрочная. І ўсё ж у Беларусі ёсць даволі значны патэнцыял і ўсе ўмовы для таго, каб мець сучасную фармацэўтычную прамысловасць.

Найперш, маюцца добра падрыхтаваныя навуковыя кадры. Сёння распрацоўкі новых лекавых сродкаў выконваюць у навуковых установах Акадэміі навук, у вышэйшых навучальных установах медыцынскага профілю і іншых.

Па-другое, у Беларусі дзейнічаюць і даволі сучасныя фармацэўтычныя прадпрыемствы. Гэта ВА «Белмедпрэпараты» і Барысаўскі завод. Будуецца таксама Драгічынскі завод медыцынскіх прэпаратаў і вырабаў, плануецца будаўніцтва ў Гродна. Што ж датычыць праектна-каштарыснай дакументацыі, дык наш медыка-біятэхналагічны інстытут таксама мае пэўны вопыт. Дастаткова адзначыць, што праект сумеснага прадпрыемства па вырабу штучнай ныркі, за выключэннем часткі тэхналагічнага раздзела, якую зрабіла нямецкая фірма «Фармаплан», быў выкананы інстытутам у поўнай адпаведнасці з замежнымі патрабаваннямі да такіх прадпрыемстваў.

У Беларусі ў дастатковай колькасці расліннай і жывёльнай сыравіны. Прычым, па меркаваннях шэрагу ўрачоў, якія лечаць з дапамогай раслін, такую флору, як у Беларусі, рэдка дзе знойдзеш. Што датычыць жывёльнай сыравіны, то яе, напрыклад, хапіла б на выпрацоўку інсуліну амаль для ўсёй СНД.

Можна адзначыць, што ў Беларусі даволі хуткімі тэмпамі развіваецца і такая крыніца лекавай сыравіны, як біятэхналагічны сінтэз, з удзелам якога навукоўцы маюць магчымасць атрымліваць рыбануклеінавую кіслату і перапрацоўваць яе далей у шэраг вельмі патрэбных лекаў, напрыклад, АТФ. У рэспубліцы няма толькі вытворчасцей сыравіны для лекаў на аснове працэсаў арганічнага сінтэзу. Але можна зацікавіць нашы хімічныя прадпрыемствы, каб яны стварылі ў сябе невялічкія адпаведныя вытворчасці.

Зараз патрабуецца звыш трох тысяч назваў лекаў, а выпрацоўваецца ў рэспубліцы толькі каля ста. З гэтых амаль трох тысяч назваў лекі патрабуюцца ў рознай колькасці. Малыя колькасці можна закупіць за межамі. Што ж датычыць лекаў, патрэбных у вялікай колькасці, іх трэба выпрацоўваць у Беларусі. Пытанне ў часе асваення вытворчасці, у гатоўнасці да таго, каб выраблаць якасныя лекі, канкурэнтаздольныя не толькі ў Беларусі, але і за мяжой. Ці гатовы?

На жаль, не. У заходніх краінах існуюць аднолькавыя і даволі жорсткія патрабаванні да дзейнасці фармацэўтычных прадпрыемстваў. Усе яны павінны мець сучаснае абсталяванне, стэрыльныя ўмовы тэхналагічных працэсаў, адпаведныя метады кантролю якасці сыравіны і канчатковай прадукцыі і г. д. Дык вось, гэтым патрабаванням адпавядае толькі сучаснае беларуска-нямецкае прадпрыемства па вытворчасці штучнай ныркі «Фрэбор» у Барысаве. Іншыя ж вытворчасці трэба «даводзіць», што запатрабуе пэўнага часу і вялікіх грошай. Значыць, станаўленне нашай фармацэўтычнай прамысловасці зацягнецца надоўга?

Але ёсць і іншы шлях. Гэта прыцягненне замежных фармацэўтычных кампаній. Зараз гэтыя кампаніі вельмі неахвотна адклікаюцца на нашы прапановы, бо, на іх думку, у Беларусі не вырашаны ўсе заканадаўчыя, фінансавыя і іншыя пытанні, якія гарантавалі б ахову іх капіталаў. Але ж калі-небудзь гэтыя пытанні вырашацца. У якім напрамку развіваць магчымыя шляхі ўзаемадзеяння?

У заходніх фірмаў можна купіць ужо гатовыя лекі за валюту або сыравіну для далейшай перапрацоўкі, можна набыць ліцэнзію, што таксама каштуе нямала грошай і зойме час. А можна і, на маю думку, трэба пайсці на стварэнне сумесных прадпрыемстваў альбо на заснаванне філіялаў замежных фірмаў у Беларусі. Але і ў гэтым выпадку абавязковымі павінны быць наступныя патрабаванні. Прадпрыемствы альбо вытворчасці павінны мець закончаны тэхналагічны цыкл: ад вырабу сыравіны да выпуску гатовых лекавых сродкаў. І, па-другое, іх прадукцыя павінна быць канкурэнтаздольнай на замежным рынку, каб не толькі забяспечваць патрэбнасць насельніцтва рэспублікі ў леках, але і прыносіць Беларусі цвёрдую валюту, якая будзе ўкладвацца ў далейшае развіццё фармацэўтычнай прамысловасці.

Якія ўмовы патрэбны для стварэння сваёй фармацэўтычнай прамысловасці? Перш за ўсё — эканамічныя.

Цэны на лекі павінны быць такімі, каб прадпрыемствы былі зацікаўлены ў іх вытворчасці. Зараз дзяржаўнае рэгуляванне цэн на лекі ў заходніх краінах існуе толькі ў Фінляндыі. І фармацэўтычная прамысловасць гэтай краіны знаходзіцца прыкладна ў такім жа стане, як і ў нас. Пакуль вытворца не будзе мець пэўных гарантый, што яго вялікія капіталаўкладанні (а што яны вельмі вялікія, гэта адназначна) не дадуць яму добрага прыбытку, ён не будзе ўкладваць у гэту галіну ні капейкі.

Добры штуршок развіццю фармацэўтычнай прамысловасці павінна даць ільготнае падаткаабкладанне. Дапамог бы і льготны крэдыт пад мэтавыя патрэбы.

Каб паскорыць станаўленне айчыннай фармацэўтычнай прамысловасці, патрэбна таксама канкурэнтнае асяроддзе. Напрыклад, у такой краіне з сусветна вядомай фармацэўтычнай прамысловасцю, як Швейцарыя, налічваецца каля 390 фармацэўтычных фірмаў з 30 тысячамі працуючых, 85 з гэтых фірмаў маюць свае вытворчасці. Вялікая колькасць фармацэўтычных фірмаў у Нідэрландах, дзе ў галіне працуе каля 13 тысяч чалавек. Вядома ж, не ўсе гэтыя фірмы аднолькавыя. Так, у Швейцарыі асноўны аб'ём вытворчасці лекаў прыпадае ўсяго на тры буйныя кампаніі. Але ж астатнія фірмы забяспечваюць увесь попыт насельніцтва на любыя лекі.

Мы можам і павінны за 5—10 гадоў значна павялічыць узровень самазабеспячэння лекамі.

**Віктар КАРПЕНКА,**
**дырэктар медыка-біятэхналагічнага інстытута.**

г. Мінск.

# Беларусь—дзяржава бурштынавая

**Наша газета паведамляла ўжо аб знаходках бурштыну ў Беларусі. Пасля публікацыі ў рэдакцыю пачалі звяртацца чытачы: прасілі расказаць пра гэта больш падрабязна**

**У народзе існуе стойкі стэрэатып: бурштын—гэта Прыбалтыка. А тут раптам Беларусь. Як аказалася, зусім не раптам. У Беларусі бурштын вядомы даўно. На рубяжы XVII—XVIII стагоддзяў яго знаходзілі пры капанні каналаў, а таксама пясчаных, глiністых, тарфяных кар'ераў пад Ваўкавыскам, Гродна, Мастамі, у басейне ракі Гарынь. У XIX стагоддзі вядомы знаходкі пад Антопалем, Драгічынам, Брэст-Літоўскім. У прыватнасці, у 1834 годзе пры будаўніцтве Брэсцкай крэпасці. У пачатку нашага стагоддзя бурштын знаходзілі ў пойме ракі Убароць, на левабярэжжы Прыпяці.**

**Адкрыццё бурштынавых россыпаў на Беларусі заканамерна. Уся тэрыторыя нашай рэспублікі разам з паўночнай Украінай і большай часткай Польшчы складае так званую Балтыйска-Дняпроўскую бурштынавую правінцыю. Таму лагічна было дапусціць, што ў Беларусі, якая знаходзіцца паміж двума рэгіёнамі, дзе здабываецца бурштын, ён таксама ёсць.**

**За тлумачэннем мы звярнуліся да загадчыка аддзела неметалічных карысных выкапняў Беларускага дзяржаўнага навукова-даследчага геалагічнага прадпрыемства «Белгеа» Інстытута геахіміі і геафізікі АН РБ, кандыдата геолага-мінералагічных навук Яўгена Іванавіча ПЯТРУШКА.**

**— Дык што ж гэта такое — бурштын?**

— Гаворачы сухой навуковай мовай, бурштын — гэта высокамалекулярнае злучэнне арганічных кіслот палімернай структуры. Агульнавядома, што бурштын — застылая смала хвойных дрэў, а менавіта аднаго віду елкі, якая даўно знікла на планеце. Жывіца сучаснай елкі прыгодная толькі на каніфоль ды ладан. А каля 65 мільёнаў гадоў назад бурштынаносная елка была шырока распаўсюджана на тэрыторыі цяперашняй Беларусі. Аднак тут не заўсёды была суша. Прыходзіла і знікала мора. У эпоху пахаладання па нашай зямлі прайшоў самы магутны ў Еўропе дняпроўскі ляднік, які глыбока «ўзараў» глебу і вывернуў бурштынаносныя слаі на паверхню. Асноўную працу па ўтварэнню бурштынавых россыпаў выконвалі старадаўнія рэкі. Трэба сказаць, што з-за сваёй нізкай шчыльнасці бурштын валодае незвычайнай плывучасцю. Дзякуючы гэтай якасці ён у тоўшчы рачной вады мог пераносіцца без асаблівага ўрону для сябе на вялікую адлегласць і асядаў толькі ў стаячых і павольных водах рэчышчаў, затокаў, азёр. У вызначэнні месцазнаходжання гэтых даўно зніклых «пастак» бурштыну і заключаецца складанасць яго пошуку. Асабліва ў прамысловым аб'ёме.

**— Што маюць на ўвазе, гаворачы аб якасці бурштыну? І ці можна гаварыць пра беларускі бурштын не толькі з геаграфічнага пункту гледжання?**

— Так, можна. Беларускі бурштын мае свае асаблівасці. Гаворачы пра якасць бурштыну, маюць на ўвазе афарбоўку і ступень празрыстасці. Аб афарбоўцы гаварыць цяжка, таму што перадаць словамі ўсё багацце каляровай гамы ад жоўтага да карычневага практычна немагчыма. Бурштын справядліва называюць сонечным каменем. Што датычыць празрыстасці, то ў свеце бурштын кваліфікуюць па 5 разнавіднасцях: ад празрыстага і злёгку мутнаватага да зусім непрасвечваемага. Чысты бурштын сустракаецца рэдка. Іншы раз усе гэтыя разнавіднасці прысутнічаюць у адным буйным кавалку адначасова. А беларускі бурштын вельмі выгадна адрозніваецца ад таго ж прыбалтыйскага менавіта сваёй аднароднасцю, дакладнай прыналежнасцю асобных кавалкаў да канкрэтнай разнавіднасці. Таму ён больш зручны і эканамічны пры тэхнічнай апрацоўцы. Па свайму саставу наш бурштын блізкі да прыбалтыйскага, але ў адрозненне ад яго больш шчыльны, што таксама з'яўляецца дадатнай якасцю. Напрыклад, прыбалтыйскі бурштын не вытрымлівае гравіроўкі—аплывае, а з нашага можна рэзаць не толькі інталіі і камеі, але і статуэткі.

**— Ювелірныя вырабы з бурштыну карыстаюцца вялікай папулярнасцю. Але няўжо гэта адзіная галіна яго прымянення?**

— Не толькі не адзіная, але і не галоўная. Бурштын выкарыстоўваецца яшчэ і як каштоўная тэхнічная сыравіна. Кавалкі высакаякаснага бурштыну памерам больш за 3,5 см ідуць у ювелірную вытворчасць для вырабу розных упрыгажэнняў, пано, сувеніраў. Успомнім вядомы Бурштынавы пакой. Асабліва буйны, унікальны бурштын прынята называць калекцыйным. За рубяжом на аўкцыёнах за яго плацяць тысячы долараў і прыватныя калекцыянеры, і музеі. Ва ўсіх сталіцах Еўропы ёсць музеі бурштыну, а ў СНД толькі ў Калінінградзе. За рэдкасць і своеасаблівасць высока цэніцца бурштын зялёна-блакітнага адцення, а таксама пейзажны, у якім пры наяўнасці ўяўлення можна ўбачыць розныя малюнкі, створаныя ўключэннямі мінеральнага і арганічнага паходжання. Дарэчы, адходы ювелірнай прамысловасці, дробныя кавалачкі бурштыну спрасоўваюцца пры высокай тэмпературы ў цэльныя кавалкі і вяртаюцца да ювеліраў. Такі бурштын значна таннейшы, але адрозніць яго ад прыроднага можа толькі спецыяліст, ды і то пры наяўнасці адпаведнай апаратуры.

Непразрысты, цёмны тэхнічны бурштын, дакладней — прадукты яго сухой перагонкі, выкарыстоўваецца ў народнай гаспадарцы вельмі шырока. Адзін з такіх прадуктаў — бурштынавая смала, ці каніфоль. Трывалым вода- і тэрмастойкім бурштынавым лакам пакрываў свае скрыпкі яшчэ Страдывары. Штогод унікальны паркет Зімняга палаца паднаўляецца слоем бурштынавага лаку. Пакрываюць ім днішчы суднаў і паверхню касмічных караблёў. У электра- і радыётэхніцы лак выкарыстоўваюць як ізалятар розных правадоў.

Яшчэ адзін прадукт сухой перагонкі — бурштынавая кіслата, якая знайшла прымяненне ў гомеапатычнай медыцыне і фармакалогіі. За рубяжом бурштынавая кіслата ўваходзіць у састаў прэпаратаў для дыягностыкі і лячэння злаякасных і іншых пухлін, ныркавых, сардэчна-сасудзістых і многіх іншых захворванняў. Яна — сыравіна для атрымання антысептыкаў, хімрэактываў у вытворчасці скурзаменнікаў і праявіцеляў каляровай фотаплёнкі, мыючых сродкаў, касметычных крэмаў і нават зубной пасты. Мала таго, бурштынавыя вытворныя — біястымулятары росту і ўраджайнасці большасці сельскагаспадарчых раслін: яравой пшаніцы, ячменю, кукурузы, буракоў, ільну, бабовых культур; павышаюць іх холадаўстойлівасць і здольнасць працістаяць фітафтарозу. Бурштынавае масла — ёсць і такое—у саставе флюсуючага масла ліцейнай вытворчасці. На жаль, доўгі час гэта дарагое масла марнатраўна выкарыстоўвалі для аховы драўніны ад гніення, а менавіта для насычэння шпал. Бурштынавае масла — хімічная сыравіна для вырабу арганічных растваральнікаў, глазурнай эмалі для вонкавага пакрыцця керамічных вырабаў, той жа абліцовачнай пліткі і цэглы. Выкарыстоўваюць яго і ў гуматэхнічнай прамысловасці пры вырабе аўташын і гумавага абутку, а таксама для атрымання лаўсанавых і капронавых нітак. Як бачым, дыяпазон прымянення бурштыну гіганцкі. Не дзіўна, што цэніцца бурштын на міжнародным рынку высока: ад 200 да 500 долараў за кілаграм, у залежнасці ад гатунку.

**— Яўген Іванавіч, вы так абрысавалі магчымасці і каштоўнасці бурштыну, што не церпіцца даведацца, ці ёсць перспектыва прамысловых распрацовак бурштыну ў нашай рэспубліцы?**

— Пакуль што вядуцца работы па ацэнцы запасаў. Мінімальная прамысловая канцэнтрацыя бурштыну складае 33,2 г на кубаметр. Таму спачатку трэба пераканацца, ці вартая аўчынка вырабу. Вядома, ёсць прыблізныя лічбы, але іх вам не скажа ніхто. Бурштын для Беларусі—сыравіна стратэгічная і ў будучым — немалая крыніца валютных паступленняў. Ужо наколькі вядомыя прыбалтыйскія радовішчы, але пра аб'ёмы запасаў ніхто не ведае да гэтага часу па той жа прычыне.

Асноўная складанасць — геалагічныя ўмовы, а менавіта глыбіня залягання бурштынавых россыпаў. Звычайна яны блізка ад паверхні: 5—10 метраў. Таму ва ўсім свеце бурштын здабываюць адкрытым спосабам. У Беларусі ж бурштынавыя слаі знаходзяцца на глыбіні 40 і больш метраў. Зразумела, можна і ў нас выкапаць кар'ер, але тады ні аб якой экалогіі ў гэтым рэгіёне гаварыць не прыйдзецца. Таму спрабуем разам з Беларускай геалагічнай экспедыцыяй распрацаваць тэхналогію падземнай свідравіннай гідраздабычы. Падобнага сусветнага вопыту няма. Але калі атрымаем станоўчы вынік, то і гэта тэхналогія, і эксперыментальны спосаб здабычы ўзораў будуць запатэнтаваны. Становішча ўскладняецца яшчэ і тым, што нават для разведвальных, эксперыментальных работ мы не маем патрэбнага абсталявання. Лабараторная база ў нас таксама вельмі слабая. Калі трэба зрабіць, напрыклад, спектральны аналіз бурштыну, мы вымушаны адсылаць узоры на Украіну.

**— Што абяцае нашай эканоміцы буйное радовішча? І ці зможа беларускі бурштын канкурыраваць на ўнутраным і міжнародным рынку?**

— Зможа. Усюды попыт на яго вялікі, таму праблем са збытам не будзе.

**Гутарыла Вера ПАЛЯКОВА.**

